

# Газета Слонімская

Газета заснавана ў 1938 годзе. Выходзіць з 1997 года.

№ 14 (14). Слонім. 5 верасня - 11 верасня 1997г. Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік Кошт свабодны



На днях у слонімскі касцёл Св. Андрэя прывезлі цудатворную фігурку Фацімскай Божай Маці, якая пяты месяц вандруе па Беларусі.

Невялікі партугальскі гарадок Фаціма стаў сусветна вядомым у 1917 годзе, калі там было неаднаразовае з'яўленне Божай Маці, якая заклікала людзей вяртацца да Бога і зрабіла некаторыя прадказанні будучага.

Цудатворная фігурка Фацімскай Божай Маці была ў Польшчы, Расіі, а цяпер - у Беларусі.

## ВЫСТАВА ЮНЫХ МАСТАКОЎ

У РДК адкрылася выстава карцін у тэхніцы аплікацыі, акварэлі, кляксаграфіі юных мастакоў нашага горада.

Усе яны займаюцца ў юнацкай студыі ЦДЮТ, якою кіруе мастак Яўген Іваноў. Новая выстава прысвечана памяці жывапісца і педагога Альгерта Малішэўскага. На суд гледачоў свае творы вынеслі мастакі ва ўзросце ад 6 да 16 гадоў. Асабліва арыгінальнымі атрымаліся карціны ў Ані Сцепнянковай, Лены Семяновіч, Сяргея Смірнова і Мікіты Бараноўскага.

Выстава працягнецца да канца гэтага тыдня.

## Заглянем на рынок



**цены на 3 сентября**

| | |
|---|---|
| арбузы | 6-8 тыс. руб. |
| бананы | 29 тыс. |
| апельсины | 35 тыс. |
| яблоки | 4-8 тыс. |
| огурцы | 8-9 тыс. |
| помидоры | 23-24 тыс. |
| капуста | 5 тыс. |
| морковь | 7-10 тыс. |
| лук | 15 тыс. |
| чеснок | 27-30 тыс. |
| картофель | 3,5-4 тыс. |
| молоко | 5 тыс. за литр |
| творог | 16-18 тыс. |
| масло | 80-82 тыс. |
| яйца | 25-26 тыс. |
| свинина | 39-95 тыс. |
| говядина | 35-85 тыс. |
| сало солёное | 50-80 тыс. |

ГОРАД *Вуліца Васі Крайняга*

# Па ёй хадзіў Марэсьеў

Вуліца Васі Крайняга– адна з самых старажытных у нашым горадзе. Некалі яе называлі Спаскай, Бернардзінскай, а пасля вайны стала Банкавай. Цяпер яна носіць імя юнага партызана, які трагічна загінуў у гады вайны.

### "Гэта табе не пры Польшчы"

Якаву Мураўскаму ў наступным годзе будзе семдзесят. Пяцьдзесят з іх ён пражыў на гэтай вуліцы ў 15-ым доме. «За польскім часам» ён гандляваў газетамі, сярод якіх магла быць і «Gazeta Slonimska».

— У той час рэдакцыя знаходзілася ў будынку сённяшняй дзіцячай паліклінікі, — расказвае Якаў Мураўскі, — там мне давалі 20-30 газет, якія я звычайна прадаваў каля касцёла Св. Андрэя, бо там было шмат людзей. За дзень зарабляў некалькі грошаў, за якія я нешта мог купіць.

Цяпер нярэдка можна пачуць такое выслоўе: «Гэта табе не пры Польшчы, калі вароты кумпякамі падпіралі, а каўбасою дзверы завязвалі». Вядома, у крамах тады было ўсё, але грошы даваліся надзвычай цяжка. Нялёгка было знайсці ў Слоніме работу.

Яго сястра Марыя Іосіфаўна ўспамінае, што, калі яна вучылася ў польскай гімназіі (цяпер ў гэтым будынку месціцца пятая школа), то гімназісты павінны былі абавязкова насіць чорны фартух, да якога прыколвалі стужачку. У першым класе яна была жоўтая, у другім — чырвоная... Калі дзеці прыходзілі ў гімназію, абавязкова здымалі свае чаравікі і абувалі тапкі. Перад кожным урокам яны чыталі малітву «Ойча наш», а па нядзелях усім класам хадзілі ў царкву.

Пра сённяшняе жыццё Якаў Мураўскі гаварыць не захацеў, абмежаваўся толькі адной фразай: «Жыву лепш, чым у мінулым годзе». Але, на жаль, не ўсе жыхары вуліцы Васі Крайняга такія вялікія аптымісты.

### Яна засталася зусім адна...

Соф'я Маркаўна Лаўрушка на вуліцы Васі Крайняга жыве з 1942 года. Яна рана засталася сіратой. Працавала нянькай, домработніцай, санітаркай у раддоме і інфекцыйнай бальніцы. Шмат пабачыла за сваё жыццё, але і сёння з жахам успамінае, як немцы павесілі на Гандлёвай плошчы двух партызан:

— Я з мужам жыла на Школьнай вуліцы. Гляджу: людзі бягуць у той бок. Пайшла і я. А там немцы падвезлі гэтых двух на машыне да шыбеніцы, накінулі ім на шыі петлі...

У 1944 годзе на фронт прызвалі мужа Соф'і Маркаўны. Хутка яна атрымала пахаронку... Адна расціла сына, благаславіла яго, калі ён вырашыў стаць афіцэрам. Але гадоў дзесяць таму ён быў



апрамэнены і праз тры дні памёр...

Жыве 78-гадовая Соф'я Лаўрушка зусім адна - у яе не засталося сваякоў. Атрымлівае невялічкую пенсію, якой ледзьве хапае напаўгаладнае жыццё. А яшчэ з райсабесу да яе прыходзіць чалавек, які мые падлогу, ходзіць у магазін. Хоць нейкая, але дапамога.

### Банк працаваў пры ўсіх уладах

Маладыя жыхары вуліцы аказаліся немнагаслоўнымі. Яны не хацелі называць свае прозвішчы, тым больш хаваліся ад фотааб'ектыва.

У доме № 21 знаходзіцца банк, які дзейнічаў пры ўсіх уладах: пры цары, пры палякох, пры немцах і пры саветах. І ніколі яго ніхто не рабаваў. Але незаўсёды ён выкарыстоўваўся па прызначэнню. Былы міліцыянер Уладзімір Дунай прыпамінае, што, калі ў першыя пасляваенныя гады ішла «зачыстка» Слонімскага раёна ад «лясных братоў», аднойчы яму давялося ахоўваць каля сотні арыштаваных, якіх размясцілі на ноч у падвалах.

Побач з банкам знаходзіцца Свята-Троіцкая царква, якую мясцовыя жыхары справядліва называюць касцёлам бернардзінцаў. Гэтае магутнае мураванае збудаванне было ўзведзена на месцы драўлянага касцёла ў першай палове XVII стагоддзя. Больш двухсот гадоў тут маліліся каталікі, пакуль у 1864 годзе касцёл не забралі ўлады пад праваслаўную царкву. Пасля яшчэ некалькі разоў тут мяняліся гаспадары. У 1941 годзе, калі пад час баёў быў пашкоджаны праваслаўны храм на скрыжаванні вуліц Янкі Купалы і Першамайскай, немцы дазволілі праваслаўным зноў заняць касцёл бернардзінцаў. І цяпер старажылы памятаюць святара Міхаіла Славінскага, які быў тады настаяцелем царквы. Калі ён памёр, яго павезлі хараніць аж у далёкі Кіеў.

На вуліцы Васі Крайняга ёсць выдатны «павільён» для здымкаў фільмаў ваеннай тэматыкі — былы будынак РДК, які цяпер ляжыць у руінах. Пабудаваны ў 1900 годзе, ён адметны тым, што ў снежні 1918 года тут праходзіў першы павятовы з'езд Саветаў. А яшчэ тут пры перапоўненай зале выступаў славуты лётчык Марэсьеў. Відаць, забыліся пра гэта людзі і кінулі будынак на волю лёсу...

**Андрэй ТУРУК**

АФІЦЫЙНА

## ЧЭКІ МОГУЦЬ АТРЫМАЦЬ НАШЧАДКІ

Нядаўна Мінюст зарэгістраваў новае палажэнне, распрацаванае Міндзяржмаёмасцю, аб выдачы чэкаў «Маёмасць» нашчадкам.

Цяпер законныя наследнікі памерлых грамадзян, якія мелі чэкі «Маёмасць», могуць рэалізаваць свае правы скарыстаць іх у адпаведнасці з Грамадзянскім кодэксам Беларусі на працягу ўсяго перыяду абарачэння чэкаў, аж да 1 ліпеня 1999 года. Акрамя таго, яны могуць атрымаць чэкі, перааформіўшы іх на свае чэкавыя рахункі, у выпадку, калі родзіч памёр да 1 ліпеня 1997 года і яму былі налічаны чэкі «Маёмасць», але сертыфікат чэкаў не быў выдадзены. Аднак, калі грамадзянін рэспублікі не атрымаў сертыфікат чэкаў, але памёр ужо пасля 1 ліпеня 1997 года, то нашчадкі права на атрыманне гэтых чэкаў ужо не маюць.

**Наталля ФУРСАВА**

# Адным – Біблія, другім – грамата



Патрыяршы экзарх усяе Беларусі мітрапаліт Філарэт наведаў Жыровічы і павіншаваў навучэнцаў Мінскай духоўнай семінарыі з пачаткам новага навучальнага года. А вось групе таварышаў, з ліку мясцовага начальства, якое там таксама прысутнічала, уручыў граматы. Пасля чаго ўсе дружна папляскалі ў далоні.

**На здымку:** Уладыка пад час выступлення ў Жыровічах.

## «МІНІМАЛКА» -200 ТЫСЯЧ

З першага верасня мінімальная заработная плата павысіцца з 150 да 200 тысяч рублёў, а тарыфная стаўка першага разраду — з 170 да 220 тысяч рублёў

Зразумела, што ў гэтым выпадку вырастуць не толькі заробкі і пенсіі, але і цэны ў крамах, а таксама выдаткі людзей на аплату камунальных паслуг.

**Наталля ФУРСАВА**

Здарэнне

## Вось дык памыліся!

На мінулым тыдні ад слонімскіх злодзеяў пацярпелі два госця нашага горада: латыш Станіслаў і расіянін Ігар. Калі хлопцы парыліся ў гарадской лазні, нехта залез у іхнія кабіны і ўкраў чаравікі, коштам 500 тыс. рублёў, гадзіннік за 150 долараў і іншыя дробныя рэчы.

**Іван ХАХЛОЎ**

ГОРАД *Праблема*

# Народ идёт на аборт

**Сегодня в Слониме 7 из 10 женщин прерывают беременность.**

По мнению старшей акушерки женской консультации Галины Смирновой, слонимчанки решаются на это по причине высокой цены на контрацептивы. Если раньше внутриматочная спираль стоила 30 копеек, то теперь за неё придётся заплатить 100-214 тысяч рублей.

А что же думают по этому поводу жители нашего города?

***Владимир, торговец на рынке, 36 лет:***

- Я отрицательно отношусь к абортам. Ведь при этом не только прерывается жизнь человека, пусть даже в состоянии зародыша. Это тоже убийство.

***Анна, ученица СШ № 6, 15 лет:***

-Я ни при каких обстоятельствах не сделала бы аборт. Но прежде всего я не допустила бы этого.

***Володя, военный, 22 года:***

- Зачем, например, рожать ребёнка, который потом будет жить в нищете...

***Ольга Фёдоровна, пенсионерка:***

-Никому не советую делать аборт. Когда-то на это решилась моя дочь. А потом она много лет лечилась от бесплодия. Я считаю, что лучше сохранить ребёнка.

**Светлана КУПИЧ**

## Сябры!

10 верасня заканчваецца падпіска на 4 квартал. Нагадваем, што на "Газету Слонімскую" можна падпісацца ў любым паштовым аддзяленні сувязі. Гэта адзіная слонімская газета, дзе ёсць што пачытаць.

**Кошт падпіскі 7.000 рублёў на месяц. Наш падпісны індэкс 64042.**

# Графская кормилица

Слово «кормилица», или как в народе говорят «мамка», знакомо нам, пожалуй, по литературе русских классиков. В деревне Тушевичи мне посчастливилось побеседовать с 87-летней кормилицей семьи графа Пусловского — Маркач Марией Александровной. По мнению графских докторов, самое питательное молоко в то время считалось у жительниц деревень Сколдичи и Тушевичи. На протяжении многих лет «мамок» брали именно из этих мест. Тщательно проверялось не только молоко кандидатки на роль «мамки», но и состояние её здоровья. Более того, выбирали самую чистоплотную и здоровую молодую женщину. Одним словом, отбор был серьёзный. Стать «мамкой» у Пусловского считалось большой честью. Поэтому 18-летняя неграмотная батрачка не могла отказаться от свалившегося на неё «счастья». Правда, ей пришлось отдать своего двухнедельного сына на воспитание свекрови. А их бедняцкая семья сразу же получила от графа корову с телёнком. По злой иронии судьбы корова вскоре убежала. Граф, узнав о случившемся, дал денег на покупку другой коровы.

За молодой «мамкой» в деревню приехали на легковой машине и увезли в лесное имение Гутка. Так у молодого наследника Януша появилась вторая мать.

Целый год она кормила грудью ребёнка. Летом в имениях на Слонимщине, а зимой — в Варшаве.

Врачи и прислуга ухаживали за Марией Маркач, как за родной матерью молодого Янушека. Кормили такими присмаками, что раньше ей о них не приходилось и слышать: шоколадом, апельсинами, разными орехами... Еду подавали утром в постель. Не разрешали заниматься физическим трудом. Строго по часам выгуливали по парку, по лесным аллеям. Обували и наряжали как настоящую пани. Впервые в жизни у неё появились дорогие платья и сапожки, тёплое пальто с меховым воротником и зимняя шубка.



Через 11 месяцев она поняла, что не может жить в «золотой клетке». Разлука с собственным сыном становилась невыносимой. Графиня, как мать понимала молодую женщину и отпустила её из Варшавского имения, наградив на прощание по-царски.

Безземельная батрачка сразу же стала владелицей двух гектаров плодородной пахотной земли и одного гектара болота под сенокос. Позже Мария несколько раз обращалась к доброй пани Харбине (графине) и та никогда не отказывала ей в помощи, ласково называла её «децко моё» (дитя моё). Управляющий Шиловичского спиртзавода по приказу графини выписал им лес на дом и стекло на окна, а граф подарил на новоселье 200 злотых. Мария Александровна потом ещё родила шестерых детей. Глаза её горели радостным огнём при воспоминании о далёкой молодости. И только концовка получилась немного грустная: «Забралі маю зямлю, маё балота! Нічога не засталося! Хата і тая заваліласяі!»

**Игорь ПОДГОРОДЕЦКИЙ**

*P. S.* В 1943 году к Марии Александровне приехал один из слуг Пусловского и попросил отдать все фотографии, где она держала на руках Янушика.

## НА КОНКУРС

*А яшчэ быў такі выпадак...*

## ЗАГУБІЛА ВЕРАЦЯНО

Гэту гісторыю мне расказала мая цётка, якой сёння цэлых 80 гадоў. А датычыць яна варажбы. Раней было павер'е, што калі ў ноч пры поўным месяцы чалавек прыйдзе на могілкі і засуне ў адну з магілак пральнае верацяно, то яму адкрыецца ўся яго будучыня.

Вось у тую ноч адна дзяўчына пайшла на могілкі варажыць. Што ёй адкрылася, якая будучыня - ніхто не ведае, бо ўтыкнуўшы верацяно ў зямлю і паспрабаваўшы ўстаць, дзяўчына адчула, што яе нехта моцна трымае за сукенку. Ад страху каля той магілы яна і памерла...

Потым высветлілася, што дзяўчына верацяном прышпіснула да магілкі сваю сукенку.

Вось і варажы пасля гэтага аб будучыні.

**Іван ДАНІЛАЎ, жыхар Слоніма**

## ШТО ЯНЫ ВЫРАБЛЯЛІ!

# БЕЗ ТЭРМІНУ ДАЎНАСЦІ

***Всякая правда о войне, даже запоздалая, работает на будущее.***

***Оно будет тем чище, чем меньше пятен оставим мы в прошлом...***

**Известия, 26.08.1997 года.**

У нашай газеце (№9, 1-7 жніўня 1997) быў надрукаваны артыкул гісторыка Сяргея Ярша «Што яны выраблялі!», у якім распавядалася пра зверствы «партызанаў» над жыхарамі вёскі Якімавічы пад час нямецкай акупацыі. На падставе дакументальных сведчанняў відавочцаў тых падзей, былі названы і імёны катаў: камандзіра атрада імя Панамарэнкі Івана Зайцава і некаторых яго падначаленых. Як аказалася, мірныя жыхары гінулі ад рук «партызанаў» і ў іншых вёсках.

**Ад рэдакцыі.**

Уся праўда пра апошнюю вайну яшчэ не сказана і наўрад ці будзе сказана ў бліжэйшы час. Наперадзе - пераасэнсаванне многіх падзей і праблем, якія раней вырашаліся спрошчана. Апошнім часам беларускія гісторыкі пачалі пісаць пра тое, што пад час нямецкай акупацыі на Беларусі назіраліся элементы грамадзянскай вайны: брат ішоў на брата, сусед на суседа - адзін быў у паліцыі ці ў самаахове, а другі ў партызанах.

Ніхто не лічыў ахвяраў гэтай братазабойчай вайны. Многае спісвалася на фашыстаў, як, напрыклад, Хатынь. Але яе на самой справе спаліў украінскі карны батальён... Вось і на Слонімшчыне мірныя жыхары гінулі не толькі ад рук акупантаў.

Нядаўна я гаварыў з былым партызанам атрада імя Панамарэнкі, які ў 1943 годзе ўдзельнічаў у расстрэле сям і Раманюкоў у Харашэвічах. Выціраючы вочы ад слёз, ён расказваў, як «партызан» Андрэй Басак страляў і скідваў у раку дарослых і дзяцей. Не пашкадаваў нават сямімесячнага хлопчыка...

Не можа быць «тэрміна даўнасці» для злачынстваў супраць уласнага народа. Людская кроў - не вадзіца і ніводная пралітая яе кропля не павінна быць безпакаранай для катаў. Лёс апошніх не зайздросны: адны вар'яцеюць, другія канчаюць жыццё самагубствам, трэція шукаюць паратунак ад кашмарных успамінаў у гарэлцы...

Сёння друкуецца працяг спісу ахвяраў «партызанскага» тэрору. Ён непоўны. Таму просім нашых чытачоў дасылаць у рэдакцыю вашы дапаўненні і заўвагі. Успомнім усіх пайменна!

## УСПОМНІМ УСІХ ПАЙМЕННА

Мірныя жыхары, якія сталі ахвярамі «партызанскага» тэрору ў 1942-1944 гадах

### ХАРАШЭВІЧЫ

КАЗАК Яўгенія Антонаўна, чацвёра дзяцей засталіся сіротамі.

КАЗАК Марцін і Тодар, браты.

КАЗАК Яўгенія, жонка Тодара (родам з Дзераўной).

КАЗАК Яўгенія.

КАЧАРГА Уладзімір Антонавіч і Ганна Іванаўна, муж з жонкаю. Сіротамі засталіся двое дзяцей.

КАЧАРГА Марыя (родам з Нагуевіч), мела 40 гадоў.

ПЯТЛІЦКАЯ Марыя Сцяпанаўна, каля 35 гадоў.

Усе гэтыя 9 чалавек былі забіты за адну ноч.

Сям'я РАМАНЮКОЎ: Кастусь Канстанцінавіч, 1903 г.н.- гаспадар, Зося Іванаўна - гаспадыня, Косця, 1922 г.н., Адам, 1924 г.н., Андрэй, 1926 г.н. - сыны, Люба, мела 13 гадоў - дачка, Зося Яфімаўна, 1918 г.н.- жонка Пятра Раманюка (старэйшага сына гаспадара), Пеця, 2 гады, Іван, каля 7 месяцаў - іх дзеці. Былі расстраляныя напрыканцы лютага - пачатку сакавіка 1943 г.

РАМАНЮК Алена і яе дзіця, якому было некалькі месяцаў, застрэлілі і скінулі з моста. Яе мужа прымусілі ісці ў «партызаны», каб засталіся жывымі астатнія члены сям'і.

Тры невядомыя рускія дзяўчыны, якія ўцяклі з нямецкага цягніка і жылі ў Харашэвічах. Іх гвалтавалі «партызаны», а пасля забралі ў лес, там забілі і закапалі (каля Блошна).

### НАГУЕВІЧЫ

КУПІЧ Міхаіл, каля 30 гадоў.

ЯРОШЫК Іосіф, каля 40 гадоў.

### ШЫЛАВІЧЫ

ГРЫПІЧ Піліп і яго сын Грыша, завезлі ў лес і забілі.

Сям'я ЖЫЛІНСКІХ: гаспадар (па некаторых звестках, ён усё ж застаўся жывы), гаспадыня, трое дзяцей: два хлопчыка (старэйшы 1935 г.н.) і дзяўчынка. Расстраляны і спалены ў хаце восенню 1943 года.

Адначасова была расстраляна сям'я эстонкі-партнніхі. Былі забіты і спалены ў хаце: гаспадыня, яе муж-беларус, дочкі: Оля, 10 гадоў, Валя, 17-18 гадоў.

РАЧКО Сцяпан і яго сын Валодзя.

### ВАЎЧУНЫ

Сям'я ЖУКОЎСКІХ: Гальяш - гаспадар, Настуля - гаспадыня, Зося - дачка, сыны: Марко, 15 гадоў і Вінцэсь.

### РУДНЯ, хутар.

КІСЛЯК Марыя і яе дачка, забітыя і закапаныя ў лесе.

**Падрыхтаваў Сяргей ЁРШ, метадыст народнага музея СШ № 4.**









***Поздравляю крестницу Вику Полуянцевич с днём рождения, а также с первым школьным звонком! Крёстная.***

АСОБА *Нашы землякі*

# Вучоны з Кракоткі

Пра Янку Саламевіча можна расказваць і пісаць шмат. Гэта цікавы субяседнік, энцыклапедыст, знаўца сваёй справы. Пра гісторыю беларускай літаратуры, фальклор, псеўданімы пісьменнікаў ён ведае амаль усё.



Нарадзіўся наш зямляк у 1938 годзе ў вёсцы Вялікая Кракотка. Закончыў Белдзяржуніверсітэт і аспірантуру пры кафедры беларускай літаратуры БДУ. 3 1994 года працуе вядучым рэдактарам рэдакцыі літаратуры, мовы, фальклору і этнаграфіі Беларускай Энцыклапедыі імя П. Броўкі.

Янка Саламевіч з'яўляецца аўтарам і складальнікам многіх цікавых кніг, падручнікаў, календароў, анталогій. Ён, напрыклад, упершыню ў Беларусі напісаў «Слоўнік беларускіх псеўданімаў і крыптанімаў XVI-XX стагоддзяў», склаў выбраныя творы Гальяша Леўчыка, М. Арла, уклаў бібліяграфію і напісаў каментарыі да кнігі «Максім Гарэцкі», напісаў выдатную манаграфію пра беларускага і польскага фальклярыста Міхала Федароўскага.

Наш зямляк з Кракоткі яшчэ добры знаўца беларускіх прыказак, прымавак, загадак, выслоўеў.

Ім складзены дзесяткі кніг, якім уласцівы глыбіня аналізу, добрае валоданне матэрыялам і мастацкім словам.

Янка Саламевіч — кандыдат філалагічных навук, а ў 1976 годзе за выданне БелСЭ ў 12 тамах атрымаў Дзяржаўную прэмію Беларусі. Жыве ў Мінску.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

Футбол

*Першая ліга*

## ЧТО СИЛЬНЕЕ, ТЕОРИЯ ИЛИ ПРАКТИКА?

**Торпедо-Кадино (Могилев) — Коммунальник (Слоним) — 2:0.**

В прошлом номере нашей газеты мы предположили, что теоретически "Коммунальник" задачу остаться в первой лиге уже решил. Но практически это необходимо ещё доказать на деле. Ведь, проигрыш в Могилеве, а также победы соседей нашей команды по турнирной таблице, поставили под вопрос жизненность этой "теории". И дело здесь вот в чём.

Во-первых, определилась команда, которая наверняка покидает лигу сильнейших — Шахтер (Солигорск), а в связи с этим "проходной бал" для второго аутсайдера поднимается до 24-25 очков по окончании чемпионата.

Во-вторых, у "Коммунальника" очень сложный календарь на финиши: в гостях необходимо будет бороться с "соседями" по турнирной таблице, а дома обыгрывать лидеров чемпионата. Поэтому, недостающих 4 очка нашей команде добыть в оставшихся 12 турах будет ох как не просто. И не исключено, что судьба предпоследнего места будет решаться в матче последнего тура в Могилёве с "Трансмашем".

**Евгений ЛИШИК**

ПАРАДЫ



*Доктара Калінічава*

## КОВАРСТВО ПРИВЫЧНЫХ ЭМОЦИЙ

Тема нашего разговора - отрицательные эмоции, которые вызывают беспокойство.

Многим это покажется неубедительным, но именно беспокойство часто является причиной появления язвы желудка, заболевания сердца, артрита, даже кариеса зубов. «Язвы желудка возникают не от того, что вы едите. Язвы возникают от того, что съедает вас», — написал некогда доктор Д. Ф. Монтэгью. А «съедают» человека страх, эгоизм, отчаяние, неумение приспособиться к реальной действительности.

Ещё одно из последствий, вызываемых беспокойством, которое впрямую касается нас с вами, — это значительное изменение внешнего вида. Мало что может состарить, озлобить женщину и уничтожить её красоту так быстро, как беспокойство. Беспокойство придаёт лицу отталкивающее выражение, заставляет сжимать челюсти, покрывает лицо морщинами. Мрачный вид — это тоже от беспокойства. От беспокойства портится кожа лица.

Постоянное чувство неудовлетворённости собой вымывает человека, меняет его духовный мир и внешний вид. «Бог может простить нам грехи наши, но нервная система — никогда»,— говорил У.Джеймс.

Не буду перечислять проблемы (а их много!), которые вызывают беспокойство. Не бойтесь смотреть в лицо жизни. Научитесь не волноваться, или хотя бы смягчите эти волнения. И, думаю, в этом вам помогут некоторые советы известного Дейла Корнеги:

Правило 1. Если вы хотите избежать беспокойства, то «живите в «отсеке» сегодняшнего дня». Не тревожьтесь о будущем. Живите спокойно до отхода ко сну.

Правило 2. Если беда крадётся за вами и загоняет вас в угол, применяйте магическую формулу:

а) спросите себя: "Что может быть самым худшим, если я не смогу решить свою проблему?"

б) мысленно подготовьте себя к принятию самого худшего (в случае необходимости);

в) попытайтесь спокойно продумать меры для улучшения ситуации, с которой вы мысленно примирились как с неизбежностью.

Правило 3. Помните о невосполнимом вреде, который беспокойство наносит вашему здоровью. Деловые люди, не умеющие бороться с беспокойством, умирают молодыми.

НАШ КАЛЯНДАР

**7 ВЕРАСНЯ 1939** года ў Слоніме ротмістар Антаневіч распачаў набор у асобны добраахвотны батальён 79-га пяхотнага палка. У гэтую вайсковую адзінку ўступіла шмат мясцовай моладзі.

**8 ВЕРАСНЯ 1924** года сяляне вёскі Чамяры на сваім сходзе пастанавілі перайначыць існуючую польскую школу ў беларускую.

**9 ВЕРАСНЯ 1939** года горад пакінуў асобны пяхотны батальён маёра Бартуля. На цягніку польскія вайскоўцы накіраваліся ў Баранавічы.

**11 ВЕРАСНЯ 1920** года Слонімскі ваенна-рэвалюцыйны камітэт прыняў рашэнне аб выпуску ў горадзе з-за адсутнасці паперы вуснай газеты. Удзельнічаць у «выданні» газеты маглі ўсе жадаючыя.

**Падрыхтаваў Сяргей ЁРШ**



ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

ВІНШУЮ

***Засорину Лену*** с 16-летием поздравляет сестрёнка Оля.

***Анну Евгеньевну Варичончик*** с юбилеем поздравляют подруги Субоч, Мороз, Климович с Костеней.

***Ильиных Анну Леонидовну*** и Сергея Александровича с днём рождения поздравляет дочь Юлия.

Дорогую и любимую мамочку и жену ***Плюта Ядвигу Семёновну*** сердечно поздравляют с 40-летием дети и муж.

***Платонову Надежду Павловну*** с днём рождения поздравляет семья Гайдецких.

Любимую сестру ***Лянцевич Ирину*** с новым учебным годом поздравляют Наташа, Миша и Алёшка.

Дорогого папу **Батюх Ивана Ивановича** с днем рождения поздравляют дети.

ПРАДАЮ

- облицовочную, настенную и половую плитку. Тел. 2-97-20.
- м/автобус «Баркас» 1990 г.в., мотоцикл «Минск», а/м «Форд-Сиера» 1986 г.в. Тел. 3-11-55.
- газовую установку для автомобиля. Тел. 3-14-65.
- а/м «Москвич-412» 1986 г.в. Тел. 3-21-54.
- 2-х местную палатку (70 дол.), 10-ти местную палатку (200 дол.), квартиру в Ивацевичах. Тел. 4-25-06 (после 20.00)
- а/м «Москвич-2140» 1980 г.в., а/м ГАЗ-21 1974 г.в. Тел. 5-25-38.
- а/м ВАЗ-2121 1987 г.в., «Фольксваген-Транспортёр» 1980 г.в.Ул. Чкалова, 40.
- дом в центре города и мопед «Симсон». Тел. 4-28-26.
- а/м ВАЗ-21013 1985 г.в. Тел. 5-16-63.
- памятник мозаичный. Тел. 2-55-30.
- щенков немецкой овчарки. Тел. 4-10-43.
- а/м ВАЗ-2105 1984 г.в. Тел. 4-11-47.
- швейную машину «Чайка-142». Тел. 5-19-97 (после 19.00)
- фотоаппарат «Смена 8М». Тел. 2-97-20.
- кухню «Ректа» (новую). Тел. 3-27-35.
- плиты ДСП (18 штук, размер 125х250), уголь 4.5 тон. Тел. 2-17-56, 2-36-66.
- передние новые крылья для ЗАЗ-968. Тел. 2-09-86.
- детскую молочную смесь «Милазан». Тел. 2-44-12.
- немецкую детскую прогулочную коляску. Тел. 4-26-28 (после 18.00).
- полку туалетную, стол раздвижной в упаковке. Тел. 5-28-55.
- новые унитазы, бачок, умывальник. Тел. 3-28-58.
- 1,5 комнатную приватизированную квартиру. Тел. 2-39-22.

МЯНЯЮ

- 2-х комнатную квартиру с доплатой на 3-х комнатную. Тел. 5-21-61.
- 3-х комнатную квартиру на 1-комнатную с доплатой или на две 1-комнатные квартиры. Тел. 2-95-26.
- новую 2-х комнатную квартиру в г.п. Чисть Минской обл. на 1 или 2-х комнатную квартиру в Слониме. Тел. 5-12-82.
- 1-комнатную квартиру в Гродно на 2-х комнатную в Слониме. Тел. 2-43-79.

РОЗНАЕ

- здыму дом ці кватэру. Тэл. 5-23-73.
- здыму кватэру на працяглы тэрмін. Тэл. 4-23-43, 2-59-90.
- ищу работу, водитель, возраст - 30 лет, катег. В, С, Д,Е, стаж работы 11 лет. Тел. 3-24-31.

Пазнаёмлюся

- женщина 42 лет познакомится с мужчиной 40-50 лет. Дер. Деревная, до востребования,п/п VII-ВЛ 657414.

Газета Слонімская **КУПОН ДЛЯ ПРЫВАТНЫХ БЯСПЛАТНЫХ АБ'ЯВАЎ N 14**

Рубрыка ________

**Тэкст (разборліва)**________________
________________
________________
________________

**Адрас (тэлефон)**________________
________________
________________

**Адрас рэдакцыі: 231800, г.Слонім-2, а/с 5**

***Шаноўныя сябры!***
***Мы вельмі рады размясціць у газеце Вашы аб'явы бясплатна. Вам толькі трэба напісаць у купоне тэкст аб'явы, а таксама ўказаць, у якой рубрыцы яна мусіць быць размешчана:*** **куплю, прадаю, мяняю, віншую, пазнаёмлюся, паслугі, светлай памяці.** ***Пасля Вы адсылаеце купон у рэдакцыю па ўказаным адрасе.***
***Увага: ксеракопіі купона не прымаюцца, а аб'явы камерцыйнага характару не публікуюцца. Адказнасць за змест рэкламы нясе рэкламадаўца.***

Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.1997г.

*Заснавальнік і рэдактар Віктар Валадашчук. Юрыдычны адрас : 231800, г. Слонім, вул.Брэсцкая, 109—1—12.*

**Адрас рэдакцыі:** *231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5. Тэл. 2-14-39.*

*Падпісана да друку 4 верасня 1997. Час падпісання 8:00. Падпісны індэкс 64042.*

*Надрукавана ў Баранавіцкай узбуйненай друкарні, г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80.*

*Наклад 5.050 экз. Заказ № 2.038*